№ 17 (3962)

3 сакавіка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

КАРУПЦЫЯ

## І зноў крымінал на мяжы

Камітэт дзяржбяспекі заявіў, што раскрыў і спыніў карупцыйную схему, якую стварылі службовыя асобы прадпрыемства «Белмытнясэрвіс». Супрацоўнікі спецслужбы затрымалі пры атрыманні хабару выканаўцу абавязкаў намесніка гендырэктара гэтага прадпрыемства. Затрыманы і давальнік хабару – дырэктар шэрагу камерцыйных структур Мінска.

Прэс-служба КДБ учора паведаміла, што затрыманы і іншыя ўдзельнікі злачыннай схемы. Гэта начальнік аддзела Мінскага філіяла «Белмытнясэрвісу» і супрацоўнік Брэсцкага філіяла прадпрыемства. Яны таксама атрымлівалі хабар і матэрыяльныя каштоўнасці ад камерсанта.

Паводле папярэдняга расследавання, затрыманыя службовыя асобы атрымлівалі хабар на працягу апошніх чатырох гадоў. Толькі выконваючы абавязкі намесніка гендырэктара атрымаў за гэты час больш за 190 тысяч долараў.

Таксама КДБ выявіла буйны нелегальны «фінансавы цэнтр», які дзейнічаў у Беларусі. Праз гэты цэнтр затрыманы камерсант пераводзіў у наяўныя і канвертаваў грошы. У гэтую структуру ўваходзілі некалькі дзясяткаў камерцыйных структур і індывідуальных прадпрымальнікаў. КДБ затрымаў арганізатара гэтай структуры і чатырох яго саўдзельнікаў. Акрамя таго, затрыманы супрацоўнік аднаго з беларускіх банкаў, які пяць гадоў за хабар дапамагаў ценявым фінансавым аперацыям.

КДБ пачаў пяць крымінальных спраў за хабарніцтва і ўхіленне ад выплаты падаткаў. На нерухомасць і дарагія аўтамабілі падазроных накладзены арышт. Самі яны ўзяты пад варту.

НАДВОР'Е

## Вясна падмачыла сабе пачатак

Сёння, 3 сакавіка, умовы надвор'я будуць вызначаць атмасферныя франты, якія змяшчаюцца да нас з Заходняй Еўропы.

Чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. Раніцай на большай частцы тэрыторыі, днём месцамі ападкі (дождж, мокры снег), у асобных раёнах слабыя туман і галалёд. Вецер паўднёвы з пераходам на заходні ўмераны, месцамі парывісты. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -2...+4°С, максімальная днём +2...+7°С. Атмасферны ціск днём будзе расці.

У сераду ноччу ў асобных раёнах, а днём – на большай частцы тэрыторыі пройдзе кароткачасовы мокры снег. Ноччу і раніцай на асобных участках дарог галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы 0...-5°С, днём 0...+5°С.

5 сакавіка ноччу захаваецца ўплыў атмасфернага фронту, днём надвор'е абумовіць поле паніжанага ціску. Ноччу на большай частцы, днём месцамі чакаецца кароткачасовы снег, мокры снег. Ноччу і раніцай на асобных участках дарог галалёдзіца. Тэмпература ноччу 0...-6°С, днём 0..+6°С.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*



## Если у них плохо, то откуда же у нас будет хорошо?..

Агрессивный тренд российского населения в свете войны с Украиной все быстрее переключается с поиска внешнего врага на поиск внутреннего. Его патриотический дух сдувается пропорционально слабеющему рублю, стремительному росту цен и безработицы. В России растет число банкротств. В 2014-м оно выросло по сравнению с предыдущим годом почти на 20% – до 14.514. Рекордным по числу банкротств стал декабрь, когда в два раза обвалился российский рубль. На когда-то легендарном «Уралмаше» за последние месяцы насчитывают до 1,5 тысячи уволенных. Аналогичная картина наблюдается на других крупных предприятиях, не говоря уже о частных компаниях. До конца марта, например, в Челябинской области могут уволить 9 тысяч работников.

Отсутствие средств в местных бюджетах привело к отмене почти 500 маршрутов электричек по всей стране, что вызвало праведный гнев Путина. Госдума рассматривает вопрос о переходе с плоской шкалы подоходного налога на прогрессивную. По подсчетам, 0,2% жителей России получают 30% всех доходов. В российских СМИ все чаще посылают правительство во главе с премьером Медведевым в отставку. Циркулируют разговоры о возможной принудительной конвертации валютных счетов российских граждан в рублевые, что дало бы стране более 260 млрд долларов, которых катастрофически недостает на фоне усыхающих валютных резервов.

После падения цены на нефть ее котировки и курсы рубля несколько стабилизировались, но не более. Министерство финансов РФ в очередной раз предлагает правительству урезать расходы бюджета на текущий год. Они должны уменьшиться на 771 млрд российских рублей.

Почему для Беларуси важна экономическая ситуация в России, думаю, объяснять не нужно. Наша экономика во многом придаток российской. За 2014 год сокращения в промышленности достигли не менее 10 тысяч человек. Наибольшие потери, естественно, понесли крупные предприятия: более 2 тысяч работников – ОАО «МАЗ», более 700 человек – ЗАО «Атлант», на 420 человек сократился персонал в ОАО «Минский моторный завод», на 480 человек – в ОАО «Борисовский завод «Автогидроусилитель». С ОАО «Гродно-Азот» уволили 2,4 тысячи работников – пятую часть всех занятых, на 1 тысячу работающих сократился персонал ОАО «Могилевхимволокно». Текучка кадров наблюдается практически на всех предприятиях. Причем сокращение занятых объясняется не следствием внедрения передовых технологий, как временами утверждают власти, а связано в первую очередь с уменьшением объемов производства, с огромными запасами нераспроданной продукции. Многие предприятия перешли на 3–4-дневную рабочую неделю. Нет прежних объемов сбыта продукции на российском и украинском рынках, на которые завязана белорусская экономика. Российский рынок сужается под воздействием обвалившихся мировых цен на нефть и санкций Запада. А рынку Украины – воюющей с Россией страны – только и дел, что до белорусских нефтепродуктов.

Людям все чаще не хватает на самое необходимое. После 42-процентной девальвации белорусского рубля средняя зарплата с 600 долларов в эквиваленте скатилась до 350–400. В результате заметно снизилась покупательская способность населения, растет задолженность многих семей по коммунальным услугам. Немало таких, кто не видит никаких перспектив. Перемирия в украинском Донбассе, считай, нет. Более того, Россия продолжает поставлять оружие сепаратистам. Германский канцлер Меркель уже заявила, что минские переговоры «нормандской четверки» были ее последней миротворческой попыткой. После некоторого подскока мировые цены на нефть продолжают снижаться. Из-за сокращений на производстве, естественно, растет число безработных. Из России возвращаются многие белорусские гастарбайтеры. Они тоже будут искать работу. Их российские зарплаты после двукратной девальвации российского рубля почти сравнялись в долларах с белорусскими. Официальная трудовая статистика, которая никогда не отражала действительное положение вещей, прогнозирует рост обращений в службу занятости с 23 до 180 тысяч человек. Туда уже потянулись под угрозой борьбы правительства с тунеядцами официально нигде не работающие люди, чтобы встать на учет.

Ситуация усугубляется отчаянным положением мелких индивидуальных предпринимателей. С 1 марта, как и планировалось, правительство вводит в действие техрегламент, и за продажу несертифицированной продукции индивидуалам грозит многомиллионный штраф. Сертифицировать продукцию в России, откуда идет основной ее завоз, дело непростое. В результате ожидается, что порядка половины ипэшников прекратят свою деятельность и пополнят ряды безработных.

А что же власти? После девальвационного обвала белорусского рубля они пытаются сдержать инфляционный всплеск путем контроля над ценами, сдерживания зарплат. Но инфляционные последствия девальвации закономерны. Эффекты девальвации в виде скачка цен все равно проявятся через 2–3 месяца. Единственная надежда, чтобы смягчить остроту негатива в экономике, это российский кредит в 2,5 млрд долларов, о котором договаривается белорусское руководство. Власти надеются, что это снимет в год президентских выборов растущее социальное напряжение. Пока же белорусов утешают очередным рецептом спасения экономики, для которой нужны десятимиллиардные долларовые вложения. Правительство определило перечень из 106 наиболее значимых предприятий, которые должны стать экономическим локомотивом. Им будет оказана всемерная финансовая поддержка – льготные кредиты под гарантии правительства, налоговые преференции, освобождение от уплаты пошлин за ввоз импортного оборудования и т.п. Но все это уже было. Министерство экономики разрабатывает сценарии развития белорусской экономики в 2015 году в зависимости от среднегодовой цены нефти и курса российского рубля. Специалисты министерства прозорливо разглядели зависимость между этими параметрами: чем ниже цена нефти, чем больше российских рублей надо отдать за доллар. Три сценария министерства для белорусской экономики можно определить как «плохой» (60 долларов за баррель нефти и 60 рублей за доллар), «очень плохой» (соответственно 50 и 61,5) и «стрессовый» (40 и 80). Десятичная дробь говорит о большой точности расчетов. Вся наша жизнь, братья-белорусы, определяется, как оказывается, всего двумя параметрами.

ГУЧНАЯ ТЭМА

## Жорсткі адказ МЗС Беларусі,

### *альбо Чаму Беларусі трэба сварыцца з дзяржавай-саюзніцай?*

МЗС Беларусі апублікаваў афіцыйную заяву ў сувязі з выказваннямі прэзідэнта Кыргызстана Алмазбека Атамбаева наконт забойства ў Мінску крымінальнага аўтарытэта Анапіяева, да якога, як падазраюць у афіцыйным Бішкеку, датычны брат былога прэзідэнта гэтай краіны Курманбека Бакіева.

*«Няма сэнсу каментаваць абразлівыя паралелі і выказванні кіраўніцтва Кыргызстана на адрас Беларусі. Падобныя перагрэтыя эмацыянальныя заявы былі б немагчымы на ўзроўні лідара цывілізаванай дзяржавы. Але нават калі пакінуць за дужкамі іх прадузятасць, то агучаныя на вышэйшым узроўні абвінавачанні ў здзяйсненні цяжкага злачынства супярэчаць агульнапрынятым міжнародным нормам крымінальнага судаводства. У любой сучаснай краіне Канстытуцыя і законы сцвярджаюць, што ніхто не можа быць прызнаны вінаватым у здзяйсненні злачынства, пакуль яго вінаватасць не будзе даказана прысудам суда, які ўступіў у законную сілу. Аднак, мяркуючы па шэрагу завочных крымінальных працэсаў, якія прайшлі ў Кыргызстане, гэтая краіна ў цэлым мае свой, спецыфічны падыход да правасуддзя. Гэта выклікае сумнеў у здольнасці кіргізскай дзяржавы забяспечваць захаванне правоў сваіх грамадзян, у тым ліку і права на справядлівую судовую абарону»,* – адзначаецца ў заяве МЗС Беларусі, якая размешчана на сайце міністэрства.

У МЗС падкрэслілі, што кампетэнтныя органы Беларусі робяць усё неабходнае па ўсталяванні і затрыманні асоб, якія маюць дачыненне да забойства. *«Любое ўмяшанне ў іх працу, у тым ліку і з боку вышэйшых службовых асоб замежных дзяржаў, у корані непрымальнае»,* – гаворыцца ў заяве.

У той жа час беларускае знешнепалітычнае ведамства маўчыць, быццам вады ў рот набраўшы, пра тое, чаму нашы ўлады прыгрэлі не толькі Бакіева-старэйшага, але і яго сваякоў. Нямала пісалася аб тым, што Кыргызстан патрабуе іх экстрадыцыі, а ў Беларусі як быццам гэтага не чуюць.

Пасварыцца з-за Бакіевых з дзяржавай-саюзніцай?!

Навошта нам гэта?..

## ...Кыргызстан не змаўчаў

Міністэрства замежных спраў Кыргызстана лічыць заяву беларускага МЗС ад 27 лютага чарговым «пацвярджэннем намеру» афіцыйных органаў Беларусі *«любымі сродкамі выгарадзіць і абараніць злачынцаў, асуджаных у Кыргызстане за ўчыненне асабліва цяжкіх злачынстваў, у тым ліку Жаныбека Бакіева».*

*«МЗС Кыргызстана вымушаны зноў падкрэсліць, што афіцыйны Мінск не павінен загаворваць праблему ўкрывальніцтва кіргізскага крыміналу на тэрыторыі Беларусі»,* – гаворыцца ў заяве кіргізскага знешнепалітычнага ведамства, зробленай у адказ на публічнае выступленне беларускіх калег.

*«Зусім недарэчна гучаць таксама спасылкі беларускага боку на паняцці «цывілізаванасці дзяржавы», «выканання правоў сваіх грамадзян», «справядлівай судовай абароны» і «спецыфічнага падыходу да правасуддзя»,* – адзначылі ў МЗС Кыргызстана. *– Тым больш у святле вядомых сусветнай супольнасці фактаў, якія стварылі ўстойлівы імідж адпаведных органаў Рэспублікі Беларусь, у выніку чаго іх кіраўнікоў не прымаюць у большасці цывілізаваных краін свету».*

У ведамстве таксама адзначылі, што ў заяве прэзідэнта Кыргызстана Алмазбека Атамбаева ад 26 лютага выказваецца *«заклапочанасць у сувязі з невыкананнем беларускім бокам міжнародных абавязацельстваў»* і не ўтрымліваецца зняважлівых выказванняў у адрас Беларусі, а наадварот, яна пранікнута *"павагай да беларускага народа і яго гісторыі, надзеяй на разуменне праблемы і пераход да канструктыўнага супрацоўніцтва ў частцы выдачы і крымінальнага пераследу злачынцаў, іншых асоб, якія адшукваюцца».*

*«Міністэрства замежных спраў Кыргызскай Рэспублікі падкрэслівае, што Рэспубліка Беларусь павінна выконваць прынятыя на сябе міжнародныя абавязацельствы, і зноў заклікае беларускі бок да канструктыўнага дыялогу ў імя інтарэсаў дружалюбных народаў нашых краін»,* – гаворыцца ў заяве.

PRO MEMORIA

## Его убили...



Это убийство уже назвали крупнейшим актом политического террора в новейшей истории России. Теперь оно обречено стать символом страны, в которой слова сталкиваются с пулями и захлебываются кровью.

Борис Немцов был известен всему постсоветскому пространству. Молодого губернатора Нижегородской области в 1990-е называли преемником Бориса Ельцина. Постепенно реформаторы выходили из большой правительственной игры, но Немцов в отличие от многих своих тогдашних единомышленников не покинул политическую арену. В «Союзе правых сил», «Солидарности» и «РПР-Парнас» он вел арьергардные бои с наступающей на его страну несвободой. Теперь даже политические оппоненты Немцова признают, что это был прямой человек, имеющий убеждения и действующий в соответствии с ними. Хотя именно они способствовали тому, чтобы в России воцарилась такая атмосфера ненависти, в которой становятся возможны убийства...

ЗЕРКАЛО

## Кто и за что?

Следственный комитет России объявил о нескольких версиях убийства Бориса Немцова.

Сторонники российской оппозиции возлагают ответственность за его убийство на власть, создавшую в стране атмосферу ненависти.

**Орыся ЛУЦЕВИЧ, эксперт Королевского института Международных отношений в Лондоне:**

– Кто бы ни стоял за убийством Бориса Немцова, та атмосфера, которая возникла в России в результате травли оппозиции и антифашистской риторики, активизировала «черные силы» общества. Эти силы опасны сейчас и для России, и для всего мира.

О различных версиях, озвученных на данный момент, в том числе об «украинском следе», – мне бы не хотелось спекулировать.

**Григорий ЯВЛИНСКИЙ, основатель партии «Яблоко»**

В заявлении, опубликованном на своем сайте, основатель партии "Яблоко" также сказал, что политическую ответственность за это убийство несет власть в целом и лично президент Путин – те, кто начал, ведет войну и проводит пропагандистскую кампанию ненависти в ее поддержку.

У НУМАР!

## На пахаванні Нямцова беларускую апазіцыю прадставіць Анатоль Лябедзька

Пахаванне застрэленага расійскага апазіцыянера Барыса Нямцова пройдзе сёння ў Маскве. Беларускую апазіцыю, мяркуючы па ўсім, будзе прадстаўляць толькі кіраўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька.

«За прадстаўнікоў іншых партый адказваць не магу, але асабіста я буду. Мы вырашылі, што дастаткова будзе не дэлегацыі ад партыі, а старшыні партыі. Я еду ў Маскву, Леў Марголін ідзе на "круглы стол" з намеснікам міністра Італіі. Так што я буду адзін», – сказаў лідар АГП.

Развітанне з Барысам Нямцовым пройдзе з 10.00 да 14.00 у Сахараўскім цэнтры. На 15.30 прызначана пахаванне на Траекураўскіх могілках.

ПРЭЦЭДЭНТ

## Недыпламатычна

У апошнія гады Барыс Нямцоў не меў высокіх афіцыйных рэгалій. Статус дэпутата Яраслаўскай Думы не адносіў яго да вышэйшых эшалонаў улады.

Але ж Барыс Нямцоў у свой час быў адным з паплечнікаў Ельцына, галоўным распрацоўшчыкам новай Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі.

Здавалася б, яго нечаканая смерць выкліча глыбокае спачуванне і ў дыпламатаў амбасады Расіі ў Беларусі. Але ж...

У нядзелю, 1 сакавіка, больш як 20 чалавек – дэмакратычных актывістаў – прыйшлі да будынка амбасады Расіі ў Мінску, каб ускласці кветкі і запаліць свечкі ў памяць пра расійскага апазіцыйнага палітыка Барыса Нямцова.

Паводле слоў лідара Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі, міліцыя, спасылаючыся на распараджэнне пасольства, забараніла журналістам здымаць ускладанне кветак і запальванне свечак. У пасольстве не было Кнігі спачуванняў. Ахова выклікала АМАП, аднак абышлося без затрыманняў.

Недыпламатычна, спадар Сурыкаў, недыпламатычна...

*(Продолжение темы на стр.5.)*

ФОТАФАКТ

## Алесь Бяляцкі стаў ганаровым грамадзянінам Сіракузы



Гарадскія ўлады італьянскага рэгіёна Сіцылія прысвоілі беларускаму праваабаронцу Алесю Бяляцкаму ганаровае грамадзянства «горада міру і правоў чалавека».

Рашэнне аб прысваенні Алесю Бяляцкаму звання Ганаровага грамадзяніна Сіракузы, па прапанове гарадскога мэра, было аднагалосна прынята дэпутатамі ў выніку галасавання 11 лістапада 2014 года. Дэпутаты палічылі, што беларускі праваабаронца "ў поўнай меры ўпісваецца і адпавядае" культурным традыцыям горада Сіракуза, які быў абвешчаны "горадам міру і правоў чалавека".

Нагадаем, што ў 2010 годзе муніцыпалітэт італьянскай Генуі прысвоіў кіраўніку ПЦ "Вясна" і віцэ-прэзідэнту FIDH званне ганаровага грамадзяніна горада, а падчас зняволення, у 2012-м, Алесь Бяляцкі быў удастоены звання ганаровага грамадзянства Парыжа.

ЭСТОНИЯ

## Побеждает Партия реформ

В Эстонии завершились очередные выборы в Рийгикогу (парламент). Большинство голосов – 27,7% – получила Партия реформ самого молодого премьер-министра в ЕС 35-летнего **Таави Рыйваса,** выступающего за большее присутствие в стране сил НАТО. Она возглавляла правящую коалицию в законодательном собрании прежнего созыва и обеспечила себе 30% мест в парламенте.

Второе место заняла Центристская партия. За нее проголосовали 24,8% избирателей. Это позволит ей представить в новом составе парламента 27 депутатов.

Всего в парламент Эстонии прошли шесть партий. Помимо реформистов и центристов там будут представлены Социал-демократическая партия (15,2%), «Союз отечества и Республики» (13,7%), Свободная партия (8,7%) и Консервативная народная партия (8,1%).

ЧУЛІ?

## Без Мясніковіча – ніяк?

Міхаіл Мясніковіч вяртаецца на поле дзейнасці ўрада. Ён узначаліць маніторынгавую групу, якая зоймецца выпрацоўкай мер для развіцця і росту эканомікі.

Гэта было вырашана падчас нарады ў Аляксандра Лукашэнкі па актуальных пытаннях сацыяльна-эканамічнага развіцця. Кіраўнік дзяржавы запатрабаваў ад чыноўнікаў хутка прымаць рашэнні па дыверсіфікацыі экспарту. Акрамя таго, на яго думку, прадпрыемствам увогуле трэба гнутка рэагаваць на знешнія фактары. Паводле вынікаў нарады і было вырашана стварыць маніторынгавую групу, якую ўзначаліць Міхаіл Мясніковіч. Група будзе займацца выпрацоўкай канкрэтных мер для развіцця і росту эканомікі.

Нагадаем, што Міхаіл Мясніковіч узначальваў урад з 28 снежня 2010-га па 27 снежня 2014 года. Яшчэ раней быў віцэ-прэм'ерам, кіраваў Адміністрацыяй прэзідэнта, узначальваў Акадэмію навук... Падаецца, што ўсё, што мог, Мясніковіч зрабіў і прапанаваў. І тым не менш спецыяліста, які ніякіх добрых вынікаў не паказаў (калі не сказаць наадварот), зноў прыцягнулі да адказнай працы.

Нагадаем, што зараз Міхаіл Мясніковіч узначальвае Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Мы ад ідэолага чуем шмат вясёлага

Начныя клубы і рэстараны ў Мінску цяпер будуць кантраляваць ідэолагі, бо, маўляў, "трэба дзейнічаць згодна з палажэннем аб арганізацыі культурна-відовішчных мерапрыемстваў". У ім сказана, што галоўная іхняя мэта – "задавольванне духоўных патрэб грамадзян, прапаганда лепшых дасягненняў нацыянальнай і сусветнай культуры".

Неяк боса-ідэолага
Лёс занёс у клуб начны –
Нападпітку ўжо, вясёлага
(Дзядзька выпіць не дурны).
Жонка, мусіць, надакучыла,
Дык "адкінуцца" крыху
Захацеў, як гопнік-чучала,
У "рассадніку граху".

Косці-рэбры "пералічаны" –
Пастараліся хлапцы!
...Адбалелі зубатычыны,
Зацягнуліся рубцы.
Падлячыўшыся, паспешліва
Склікаў ён сваіх калег
І па тварах іх насмешлівых
Цяжкім позіркам прабег.

## "Авохці мне!.."



НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

## «Трэба дома бываць не госцем»

ПРОШУ СЛОВА!

# Университет – унылое место...



ОТ РЕДАКЦИИ

КОММЕНТАРИЙ

# Права студентка: образовательная система больна

ТАК ДУМАЮ

## Хто Мінздраву даражэйшы?

ДАТА

## Шэсце на Дзень Волі пройдзе пад лозунгам «Разам за мір і незалежнасць»

ПАЗІЦЫЯ

## А калі задумацца...

ПОЗДРАВЛЕНИЕ

## С праздником!



# В Москве убит Борис Немцов

## Его расстреляли почти под стенами Кремля

## «Они боялись тебя, Борис»

Это случилось в Москве сегодня.
Не промахнулись стволы подлецов.
В строю российской Небесной Сотни
Правофланговым – Борис Немцов.

За правду четыре пули наградой.
Всего лишь день не дожил до весны.
Красивое место выбрали гады –
С видом на Кремль, в сердце страны.

Над Спасской башней – черные птицы,
Злорадно лыбится их господин.
Борис, Небесная Единица,
Похоже, недолго ты будешь один.

Всегда улыбался, хотел быть первым,
Готовил какой-то новый сюрприз,
И сдали, похоже, ублюдков нервы.
Они боялись тебя, Борис.

Теперь про войну и коррупции кариес,
Про антимайдановских мотокрыс
Пишите Боре, вот новый адрес:
Небесная Сотня. Немцов Борис.

**Андрей ОРЛОВ (Орлуша).**





Демократическая Россия негодует.

ПРЯМАЯ РЕЧЬ

## «Они способны на все...»

## Сердце матери чувствовало...



Демократическая Россия скорбит.

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

## Из интервью Дмитрию Гордону

### О Путине

### О Медведеве

### О Черномырдине

### О Лебеде

### О Коржакове

### О Березовском

### О Жириновском

### О Чубайсе

ПОСЛЕДНЕЕ ИНТЕРВЬЮ

# «Остановить войну!»

*Буквально за два часа до своей гибели Борис Немцов был на радио «Эхо Москвы». Веселый, улыбчивый, ироничный... Как обычно... Но говорил о серьезном – о необходимости немедленного прекращения войны с Украиной.*

**Б.Немцов:**

– Путин год назад начал агрессию против Украины. Почему я говорю год назад? Потому что 27 февраля прошлого года, вы знаете, вооруженные люди захватили здание парламента Автономной Республики Крым. Потом 47 депутатов (то есть не имея кворума) под дулами автоматов проголосовали

МНЕНИЕ

## Его убили

*Анатолий ЧУБАЙС, гендиректор РОСНАНО*

### О личном

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



# *Максім ГУСЦІК:* «Калі не патрапіў на Алімпіяду, ледзь не сарваўся...»

***Беларускі фрыстайліст Максім ГУСЦІК распавёў "Народнай Волі" пра свой першы сур'ёзны поспех, пра дзяцінства, сябраў і сям'ю.***

Святое месца пустым не засталося. Пакуль алімпійскі чэмпіён **Антон Кушнір** залечвае старыя траўмы, у камандзе знайшоўся новы лідар. Не так даўно **Максім Гусцік** стаў бронзавым прызёрам чэмпіянату свету, а днямі заваяваў бронзавую ўзнагароду і на этапе Кубка свету ў Маскве.

**– "Бронза" чэмпіянату свету для вас гэта жыццёвы этап?**

– Скажам так: прыступка для новых вышынь.

**– Колькі ішлі да гэтай узнагароды?**

– Вельмі доўга – каля 15 гадоў. Хоць да гэтага ў маім актыве былі прызавыя месцы на этапах Кубка свету, двойчы станавіўся чэмпіёнам свету сярод юніёраў, пяць разоў выйграваў агульны залік Кубка Еўропы на дарослым узроўні. Але ўсё гэта было крыху не тое...

**– Калекцыяніруеце бронзавыя медалі?**

– Мне ўжо самому надакучылі гэтыя трэція месцы. Асабліва крыўдна, калі ад больш высокіх ступеняў цябе аддзяляе зусім няшмат.

**– А ці было крыўдна, калі не прайшлі адбор на Алімпіяду-2014 у Сочы?**

– А як вы думаеце?! Было не толькі крыўдна, але і цяжка ў псіхалагічным плане. У мяне ледзь не адбыўся нервовы зрыў. Добра, што падтрымалі трэнеры, сям'я. Мне сказалі: "Ты столькі часу аддаў фрыстайлу, а зараз усё гэта хочаш выкінуць у сметніцу? Не варта гэтага рабіць". І я вырашыў застацца ў спорце, хоць намеры былі розныя.

**– Ужо ведаеце, што вам перашкодзіла патрапіць на Алімпіяду?**

– Вінаваты толькі сам. Захацеў большага, але да гэтага быў не падрыхтаваны.

**– Калі пачалі займацца фрыстайлам?**

– Бацькі адправілі ў спорт, калі мне было пяць з паловай гадоў. Пачулі, што, маўляў, у




Беларусі зараджаецца такі від спорту, як фрыстайл. Вырашылі, што мне варта паспрабаваць. Спачатку былі батут, акрабатыка, а ў 9 гадоў стаў і на лыжы.

**– Можа, у вас у дзяцінстве праяўляліся нейкія рысы характару, якія падыходзяць менавіта для фрыстайла?**

– Якія там рысы! У дзяцінстве я быў такі гіперактыўны, што секунды не мог на месцы пастаяць. А выхавацельніцы дзіцячага садка, у які хадзіў, напэўна, да гэтага часу ўспамінаюць мяне з жахам. То залезу кудысьці, то схаваюся... Дарэчы, менавіта настаўніца фізкультуры і параіла бацькам аддаць мяне ў спорт. Сказала: "Энергія з вашага малога так і прэ, накіруйце яе ў правільнае рэчышча".

**– Фрыстайлісты ж павінны быць спакойнымі і сканцэнтраванымі...**

– Гэта прыходзіць з узростам. Ды і трэнер заўсёды падкажа, калі трэба сабрацца.

**– Раней былі куміры ў спорце?**

– У 1998 годзе мы глядзелі з татам выступленні нашых фрыстайлістаў на Алімпіядзе ў Нагана. Я ўбачыў, як Дзмітрый Дашчынскі заваяваў алімпійскую "бронзу", і мне захацелася быць падобным на яго. Аб чым тату адразу заявіў.

**– Бацькі – не спартсмены?**

– Тата працуе ў камерцыйнай фірме, мама – на дамашняй гаспадарцы. Яны прафесійна спортам не займаліся, але бацька, напрыклад, восем відаў спорту перабраў за сваё жыццё і зараз, у рэшце рэшт, вырашыў спыніцца на футболе. Да гэтага часу гуляе з сябрамі. А мама некалі лёгкай атлетыкай займалася. Дарэчы, мая старэйшая сястра крыўдзіцца на бацькоў: "Чаму Максіма аддалі ў спорт, а мяне – не?"

**– Дзіма Дашчынскі не так даўно расказваў журналістам: "Я памятаю Максіма Гусціка 12-гадовым хлопчыкам. У зале ён вызначаўся сваёй энергіяй. Яму ўдавалася ўсё: і трэніравацца, і пажартаваць над партнёрам, і падтрымаць усіх. І з узростам ён не змяніўся..."**

– Тут мой калега Амерыку не адкрыў. Энергія, як я казаў, б'е праз край – гэта, напэўна, ужо ў крыві.

**– Пажартаваць таксама любіце?**

– А як жа без добрага настрою ў камандзе?! Любім пажартаваць адзін над адным, песні паспяваць.

**– Ёсць талент спевака?**

– У нас у камандзе трыа – я, Дзяніс Осіпаў і Аня Гуськова. Пад настрой нешта зацягваем... Праўда, да вялікай сцэны, відаць, яшчэ далёка, так пакуль спяваем для душы. Як кажуць, на аматарскім узроўні.

**– Ведаю, што вы не так даўно жаніліся...**

– 31 сакавіка адзначым з жонкай два гады сумеснага жыцця, хоць ведаем адзін аднаго ўжо каля 10 гадоў.

**– Каманда была на вяселлі?**

– Ведаеце, у нас прайшло вельмі сціплае вяселле. Распісаліся, сабраліся ў рэстаране вузкім колам самых блізкіх. Мы зыходзілі са сваіх фінансаў, таму ніякай раскошы і не планавалі. Пасля таго як не патрапіў на Гульні, пачаліся фінансавыя праблемы.

**– У сямейным жыцці пакуль не расчараваліся?**

– Вось у гэтым плане – ніякіх праблем. Жонку ведаю даўно, у нас падрастае цудоўная дачушка, якой ужо год і два месяцы. Тыл у мяне моцны. Застаецца толькі радаваць блізкіх сваімі перамогамі...

**Алесь СІВЫ.**

ШАШКІ

## *Турніры ў першай лізе*

Яны прайшлі ў рамках чэмпіянату Беларусі па шашках-64. Уладальнікамі пуцёвак у вышэйшую лігу сталі: сярод мужчын – кандыдат у майстры спорту Міхаіл Семянюк, майстры спорту Аляксандр Маркін, Віталь Аніська, КМС Аляксандр Мечны і МС Васіль Навумік, у жанчын – кандыдаты ў майстры спорту Ірына Курцова, Аляксандра Спірына, Яна Лазавік і першаразрадніца Анастасія Кашнікава.




Адбыліся адборачныя першынствы краіны для ўдзелу ў спаборніцтвах вышэйшай лігі 2015 года і за 100-клетачнымі столікамі. Тут мацнейшымі былі КМС Дзмітрый Немец, МС Уладзіслаў Валюк, Фёдар Бакач, КМС Генадзь Цыкуноў і МС Уладзіслаў Сплендар. У жаночым турніры пуцёўкі ў вышэйшую лігу атрымалі КМС Марыя Міронава, Паліна Петрусёва і Святлана Гарбачэнка.

Заслугоўваюць увагі фрагменты з партый кандыдата ў майстры спорту Сяргея Гладкага, які заўсёды імкнецца да камбінацыйнага стылю гульні:

1.**Белыя** (Гладкі): a3, a5, b2, c1, e1, e3, f2, f4, g1, h6 (10). **Чорныя** (Цыдзік): a7, b8, c5, c7, d6, e7, f6, f8, g7, h4 (10). Згуляўшы 1... fg5, чорныя трапілі ў пастку, бо белыя падрыхтавалі даволі замаскіраваную камбінацыю на сваю карысць. Пашукайце яе самастойна. Сваю кемлівасць вы зможаце праверыць у наступным выпуску рубрыкі.

2.**Белыя** (Новікаў): a3, b4, c5, d2, f2, h6 (6). **Чорныя** (Гладкі): a7, c7, e7, f4, f6, f8 (6). У гэтым жа становішчы памыліліся белыя (1. dc3?), і чорныя ажыццявілі пераможны план: 1... fe3 2. f:d4 cd6 3. cb6 a:e3 4. ba5 ef2 5. ab4 fg5 6. h:f4 fg1x. А была прыгожая нічыя, амаль кампазіцыйная: 1. cd6! c:e5 2. bc5 fg7 3. h:d6 4. ab4 fg5 5. ba5 gh4 6. fe3 hg3 7. e:g5 gh2 8. de3 hg1 9. ed4 cd6 10. c:e7 g:f8 11. gf6!=.

Аб гэтых баталіях мы даведаліся ад намесніка старшыні Беларускай федэрацыі шашак Віталя Варушылы. У сваю чаргу паведамляем, што ў газеце "Друг пенсіянера" пад яго рэдакцыяй пачала выходзіць рубрыка "Шашкі". У ёй ужо разгледжаны вучэбныя прыклады на тэмы "Шашачная натацыя", "Апазіцыя", "Чатыры дамкі супраць адной". Маюцца інфармацыйны і іншыя раздзелы.

## *"Пастаўская зіма"*

Турнір пад такой назвай ладзіўся на дошках-64 і таксама меў статус рэспубліканскага, быў адкрытым. Упэўнена перамог у ім кандыдат у майстры спорту з Маладзечна Аляксандр Барташ (16 ачкоў з 18 магчымых). Другі і трэці прызы ўручаны майстру спорту Вітольду Цыдзіку і мінчаніну Вячаславу Палянскаму (яны набралі па 12 ачкоў). Шасцёрку лепшых замкнуў арганізатар спаборніцтваў кандыдат у майстры спорту Іван Троцкі (у яго актыве – 11 ачкоў).

## Праверце рашэнні

**"Бразільскія шашкі"** (М.Грушэўскі): **№6** – d2 (g5 – па правіле збівання большасці фігур і засталася простай шашкай) f8 – дамка, але з наступнага ходу, c1 (g3) e3 (h2) g1#.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

# Сам себе косметолог



### Устранить сухость кожи

Избавиться от стянутости и шелушений поможет питательная маска из банана. Рецепт: разомните один средний банан, добавьте 1 ч. ложку питательного крема, 1 ч. ложку оливкового масла, половину чайной ложки лимонного сока и тщательно перемешайте. Нанесите на лицо на 15–20 минут. Смойте теплой водой.

### Долой отеки под глазами!

Натрите на мелкой терке сырую картофелину. Затем полученную кашицу наложите на глаза и подержите 20 минут. Это средство отлично «вытягивает» лишнюю жидкость с век.

### Прочь синяки!

Чтобы освежить взгляд, заварите 2 пакетика черного или зеленого чая. Подождите, пока остынут. Наложите на глаза и полежите с ними минут 15–20. Как вариант: 2 ватных диска смочите в молоке и оставьте на глазах на 15 минут.

### Успокоить раздраженную кожу!

Снять усталость и вернуть коже лица свежесть можно при помощи кефирной маски. Рецепт: в течение 15–20 минут несколько раз смазывайте лицо жирным кефиром, затем умойтесь теплой водой.

### Придать тонус

Для жирной кожи: смешайте яичный белок, ложку оливкового масла и несколько капель лимона и нанесите на кожу.

Для сухой кожи: смешайте творог со сметаной или сливками, разотрите до однородной массы и нанесите на лицо.

Для нормальной кожи: разомните очищенный банан, добавьте ложку свежевыжатого сока грейпфрута и нанесите полученную кашицу на лицо.

### Выровнять цвет лица и устранить бледность

В этом помогут питательные маски из ярких овощей и ягод.

Для сухой кожи: 2 средние моркови натрите на мелкой терке, смешайте с одним яичным желтком и нанесите на лицо. Подержите 10–15 минут. Смойте теплой водой.

Для нормальной и комбинированной кожи: яичный белок смешайте с 2–3 ст. ложками сока калины и нанесите смесь на лицо на 10–15 минут. Затем смойте теплой водой.

Если у вас жирная кожа и «блеск» портит настроение и макияж, вам поможет совет косметолога. Смешайте в баночке немного воды и белого уксуса, смочите в этой смеси ватный тампон и протрите лицо. Уксус удалит сало и загрязнение в порах. Делайте эту процедуру перед нанесением вечернего макияжа – и он будет держаться дольше.



ДАСЛЕДАВАННІ

# Дахоўка, муроўка і гзымс ад Алега Трусава

*На мінулым тыдні адбылася прэзентацыя кнігі кандыдата гістарычных навук, старшыні ГА "Таварыства беларускай мовы" Алега Трусава **«Кароткая гісторыя архітэктуры Беларусі».** Кніга прысвечана гісторыі беларускай архітэктуры ў яе розных праявах. Прычым часавыя рамкі даследавання ўпершыню ахопліваюць перыяд ад каменнага веку да 1991 года.*

Упершыню гаворка ідзе пра архітэктуру на тэрыторыі Беларусі ад эпохі палеаліту да канца савецкай эпохі. Акрамя культавага і абарончага дойлідства аўтар разглядае жыллё вяскоўцаў і гараджан у розныя эпохі, будаўніцтва прадпрыемстваў, дарог, мастоў, каналаў... Алег Трусаў узгадаў пра гады плённай працы даследчыка і адказаў на пытанні.

**– Як пачынаўся ваш шлях да вывучэння гісторыі архітэктуры?**

– Калі летам 1971 года я прынёс свае дакументы на гістфак БДУ, пацікавіўся, ці магу я стаць археолагам. У БССР археолагаў не рыхтавалі, але я стаў вучнем Эдуарда Загарульскага, які працаваў на гістфаку. У 1973 годзе была створана кафедра археалогіі, і я быў яе першым выпускніком. Тады археалогія была дамангольская – ад сярэдзіны XIII стагоддзя, а культуру ВКЛ (польскія паны, літоўскія князі, шляхта) капалі бульдозерам і выкідвалі ў смецце, а потым капалі Старажытную Русь. Пётр Фёдаравіч Лысенка, перад тым як адкрыць старыжытнае Бярэсце, скідваў па 2 метры грунту. Лёс падараваў мне пасаду навуковага супрацоўніка ў Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных майстэрнях Міністэрства культуры БССР. Я прыйшоў на працу ў архітэктурны савет і зразумеў, што, нягледзячы на мой чырвоны дыплом, праводзіць раскопкі я не ўмею і нават не ведаю архітэктурную тэрміналогію.

Я паехаў у камандзіроўку ў Полацк, пазнаёміўся з вядомымі архітэктарамі Паўлам Рапапортам і Рыгорам Штэндарам, удзельнічаў у абмерах Спаса-Прэабражэнскай царквы XII стагоддзя. Упершыню я пабачыў, як працуюць навукоўцы з сусветнымі імёнамі, і мне вельмі захацелася быць падобным да іх. Павел Рапапор стаў маім нефармальным кіраўніком і дарадцам. Я паступіў у завочную аспірантуру і ў снежні 1981 года ў Ленінградзе паспяхова абараніў працу па методыцы архітэктурна-археалагічных даследванняў на прыкладзе помнікаў беларускага дойлідства XI–XVII стагоддзяў.






Далей за ведамі я паехаў у Літву, дзе атрымаў вялікую падтрымку ад археолагаў з Вільнюса і Каўнаса. Маім сябрам стаў даследчык архітэктуры Летувы Вітаўтас Левандаўскас. Пазней я атрымаў магчымасць прайсці стажыроўку ў польскіх рэстаўратараў і археолагаў з Кракава і Варшавы.

Першыя мае самастайныя раскопкі адбыліся ў 1977 годзе (у Лідскім замку) і доўжыліся да 1994 года. За гэты час я праводзіў раскопкі замкаў, ратуш, храмаў, кляштараў і манастыроў ад XII да XVIII стагоддзяў у розных гарадах роднай Беларусі. Шмат часу патраціў на вывучэнне і вяртанне ў штодзённы ўжытак старажытнай беларускай архітэктурнай тэрміналогіі. У нас гавораць: " мур" і "муроўка" (а не "кладка") і "дах" і "дахоўка" (а не "черепица"), і такіх слоў шмат. Напрыклад слова, "гзымс" (карниз) многія і не ведаюць. Пяць гадоў я агучваў тэрміны на Радыё Свабода, яны друкаваліся і ў "Нашым слове".

**– Як з'явіліся вашы першыя выданні на роднай мове пра дойлідства?**

– Папрацаваўшы дзесяць гадоў, я вырашыў напісаць першую кніжку па архітэктуры па-беларуску. У 1990 годзе выйшлі "Старонкі мураванай кнігі". Мне ўдалося адрадзіць каляндар "Родны край", заснаваць серыю "Помнікі архітэктуры Беларусі". Напісаў кніжачку пра Лідскі замак на дзвюх мовах накладам 20.000 асобнікаў па ўзоры літоўскіх. Іншыя аўтары пісалі пра іншыя помнікі. У 2013 годзе пісьменнік і выдавец Анатоль Тарас прапанаваў мне напісаць на грунце гэтага рукапісу новую кнігу па гісторыі беларускай архітэктуры ад каменнага веку да 1991 года. Ён жа прасіў змяніць назвы асобных раздзелаў, прапанаваўшы структуру выдання. Гэта мяне зацікавіла, і я ўзяўся за працу. Прыйшлося прагледзець і выкарыстаць сотні розных пісьмовых і архіўных крыніц ад асобных манаграфій да газетных артыкулаў. Істотна дапамагалі мне ў напісанні, наборы і рэдагаванні гэтага выдання Станіслаў Суднік, Алена Анісім, Юлія Бажок і Таццяна Навасельская. У кнізе 300 ілюстрацый, якімі падзяліліся Ігар Марачкін, Ігар Чарняўскі, Віктар Сірыца.

З 1995 года я працую дацэнтам, выкладчыкам у БДУКіМ. Два гады я працаваў дэканам, стварыў новую спецыяльнасць "музейшчык", у вучэбны план уставіў і гісторыю архітэктуры, і польскую мову, і латынь, і нават філатэлію. Усё гэта чытаецца і зараз. Я выкладаю курс "Гісторыя архітэктуры", студэнты здаюць іспыты.

**– Раскажыце, калі ласка, лёс якіх збудаванняў вам асабліва блізкі па асабістым жыцці і дзейнасці даследчыка-археолага?**

– Мне дарагі замкі, дзе я працаваў: замак у Лідзе і ў Міры, мае родныя мсціслаўскія помнікі. Звязаны з будаўніцтвам быў мой прадзед Васіль Радзівонавіч Драздоўскі, які меў адпаведную адукацыю і збудаваў сярод іншых і Мсціслаўскую мужчынскую гімназію (1907–1908) у стылі мадэрн. Дарагая мне і Магілёўская ратуша, якой я прысвяціў дзве кнігі.

**– З кім з вядомых архітэктараў даводзілася працаваць побач?**

– Адным з самых унікальных быў мой сябра Леанід Мендзелевіч Левін і яго сям'я, з яго дачушкай мы працавалі ў рэстаўрацыі. Яшчэ магу прыгадаць Сяргея Багласава, Валерыя Слюнчанку... Я ўваходзіў у аўтарскі калектыў рэстаўратар–архітэктар–археолаг, і мы абменьваліся досведам.

**– Як вы ставіцеся да найноўшых збудаванняў у цэнтры Мінска?**

– Усе краіны церпяць ад дзікага капіталізму. Возьмем Варшаву: такіх пачвар наставілі ў цэнтры, проста жах! І ў нас пачалі ставіць пачвары. Гатэль каля цырка яшчэ можна ўспрымаць, а дом у Траецкім прадмесці проста забіў горад. Думаю, што потым такія збудаванні будуць ліквідаваны.

**Эла ДЗВІНСКАЯ.**

ВЫСТАВКИ

# Уроки японского градостроительства



Причудливые токийские небоскребы лучше рассматривать воочию – пока не закружится голова. Говорю это как человек, который побывал в столице Японии и был поражен масштабом архитектурно-дизайнерской мысли зодчих Страны восходящего солнца.

Впрочем, можно попробовать это сделать и опосредованно – на передвижной выставке «Города на грани выживания: японские урбанистические проекты 1960-х годов», которая открылась 26 февраля в Минске в Музее истории города.

Название экспозиции, успевшей до Минска побывать в 22 городах мира – от китайского Шанхая до канадского Торонто, говорит само за себя. В микромасштабе представленных экспонатов – макетов, фотографий, интерактивных карт – градостроители Японии наглядно демонстрируют свое решение глобальной мировой задачи – оптимальное размещение растущего численно населения на ограниченном жизненном пространстве. Тем более что для островных государств она приобретает особое значение.

Инициатором проведения выставки в Беларуси стал Японский фонд – независимая организация, ставящая своей целью пропаганду японской культуры и искусства. Автором концепции является японский архитектор и дизайнер Наохико Хино, чьи оригинальные проекты художественных галерей принесли ему мировую известность.

Нынешняя градостроительная выставка – 20-я по счету, которую проводит Японский фонд совместно с Посольством Японии в нашей стране.

Следующим городом в маршруте передвижной экспозиции станет Гомель, а затем она отправится в Африку.

**Людмила СЕЛИЦКАЯ.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а.**
**Прыёмная:**
**тэл. (017) 3286871.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286609, 3286906**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

9 772071 964000 15017

**Падпісныя індэксы:** **63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,** **632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 02.03.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25440 экз. Заказ №907.**